наша свабода
№6 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

14 САКАВІКА 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



стар.5

# ЗША губляюць ілюзіі

Аляксей ЗНАТКЕВІЧ

**Злучаныя Штаты расчараваныя вынікамі дзейнасці беларускіх уладаў у сферы правоў чалавека, асабліва ў апошнія месяцы, заявіў 10 сакавіка сакратар дзяржДэпартамента ЗША па пытаннях дэмакратыі, правоў чалавека і працы Гаральд Коў падчас відэаканферэнцыі паміж Вашынгтонам і інфармацыйнай службай амбасады ЗША ў Мінску, у якой бралі ўдзел прадстаўнікі праваабарончых арганізацыяў Беларусі.**

Відэаканферэнцыя была прысвечаная вынікам слуханняў па правах чалавека ў Беларусі, якія 9 сакавіка праводзіла камісія Кангрэса ЗША па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе. У слуханнях, акрамя прадстаўнікоў дзяржДэпартамента, бралі ўдзел дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га скліканьня Сямён Шарэцкі, Станіслаў Шушкевіч і Анатоль Лябедзька, а таксама кіраўнік рабочай групы па Беларусі Парламенцкай Асамблеі АБСЕ Адрыян Северын. Падчас слуханняў былі дадзеныя жорсткія ацэнкі сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі.

Паводле словаў Г.Коў, у ЗША быў «момант аптымізму» ў адносінах да развіцця сітуацыі ў Беларусі, калі з турмы быў вызвалены былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір. Але ход судовага працэсу над былым прэм'ерам выклікаў новыя расчараванні, зазначыў прадстаўнік дзяржДэпартамента. Сярод іншых пытанняў, якія выклікаюць заклапочанасць ЗША, сп. Коў назваў уціск незалежных СМІ і праваабарончых арганізацыяў, і дрэннае абыходжанне з затрыманымі і зняволенымі.

Як паведаміў Гаральд Коў, ЗША падтрымліваюць ідэю палітычнага дыялогу ў Беларусі, але такі дыялог павінны весціся па канкрэтных пытаннях і прывесці да канкрэтных вынікаў — у тым ліку да прыняцця Выбарчага кодэкса, які б адпавядаў стандартам АБСЕ.

Злучаныя Штаты таксама заклікаюць беларускія ўлады забяспечыць свабоду сходаў і не выкарыстоўваць сілу супраць удзельнікаў «Маршу Свабоды-2», які мае адбыцца ў Мінску 15 сакавіка. Чакаецца, што гэтае пытанне будзе абмяркоўвацца падчас візіту ў Беларусь адмысловага дарадцы дзяржсакратара па пытаннях новых незалежных дзяржаваў Роса Уілсана, які мусіць прыбыць у Мінск 13 сакавіка.

Падчас відэаканферэнцыі сп. Коў выказаў падтрымку дзейнасці праваабарончых арганізацыяў Беларусі ад імя прэзідэнта ЗША Біла Клінтана і дзяржсакратара Мадлен Олбрайт. ■

# Прэм'ер з Нямігі

**14 сакавіка былы старшыня Мінгарвыканкама Уладзімір Ярмошын будзе зацверджаны палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу на пасаду прэм'ер-міністра Беларусі.**
**На працягу амаль пяці гадоў ( з 1995 па 2000) Уладзімір Ярмошын кіраваў горадам Мінскам. Што станоўчага і што адмоўнага захавалася ў вашай памяці – як вынік кіравання Ярмошыным горадам? – з такім пытаннем звярнуўся да мінакоў наш карэспандэнт Аляксей Шыдлоўскі.**


Фота IREX/ProMedia

**Сяргей**, студэнт:
— Ну, асабіста мне запомніліся надзвычай жорсткія дзеянні ГУУС Мінска, кіравалі якімі фактычна Ярмошын ды ягоны намеснік Віктар Чыкін, падчас розных масавых акцыяў. Яшчэ ў горада з'явілася нейкая цяга да пампезнасці, вакол пачалі выстройвацца будынкі ў нейкім еўраазіяцкім стылі, узгадайце той жа саркафаг на Кастрычніцкай плошчы. Такое ўражанне, быццам бюджэт горада бяздонны... А з добрага, ну хіба што чысцей стала.

**Марыя Сяргееўна**, пенсіянерка:
— Нармальны быў мэр, талковы. І прэм'ер, глядзіш, добры будзе.

**Валянцін**, юрыст:
— З добрага... Ну я ведаю ЗАГС у Кастрычніцкім раёне маім адчынілі новы. Не ведаю больш. А з дрэннага – канешне ж, трагедыя на Нямізе, за якую, я лічу, Ярмошын цалкам нясе адказнасць. Ды і не мэр ён, яго ж не выбіраў ніхто. Звычайны старшыня гарвыканкама.

**Мікалай, беспрацоўны**:
— Ды менты сталі злыя, як сабакі, «беспредельничают»! Вунь у які пад'езд ні зайдзі – усюды наркаманаў процьма, а іх жа менты не чапаюць. Ды і ўвогуле ў горадзе брыдоты ўсялякай стала больш.

**Марына Бабаева**, навучэнка:
— Ну, Палац Рэспублікі ж так і не дабудавалі, здаецца. Больш нічога не ведаю.

**Аляксей**, рабочы:
— Я памятаю, як у 1995 годзе метрапалітэнаўскі страйк душылі. Вы памятаеце? Толькі людзі паспрабавалі свае законныя правы бараніць, як тут жа Ярмошын за справу ўзяўся – нагнаў у метро міліцыянтаў, якія сілком вымушалі кіроўцаў у цягніку садзіцца і працаваць. А колькі іх пазвальнялі, метрапалітэнаўцаў, пасля! Дасюль большасць на працу нідзе не бяруць. Адзін жа тады скончыў жыццё самагубствам, некаторых пасадзілі... Ужо тады ўсё з гэтым мэрам было зразумела.

**Андрэй Сяргеевіч**, выкладчык фізікі:
— Добрае за час кіравання – гэта тое, што ў цэнтры горада спынілі будоўлі там розныя, горад увогуле займеў лепшы выгляд. А з дрэннага, што тут адразу ўспомніш? Ну, транспарт дрэнна ходзіць...

**Ігар**, прыватны таксоўшчык:
— Не ведаю, дзе ён яшчэ вызначыўся, але свой прамы абавязак – дагляд за гарадскімі дарогамі — завадіў канкрэтна. Такіх руінаў нават рускія ў Грозным не нарабілі. Цікава, куды ён падзеў тыя грошы, якія кожны год здзіраюць на рамонт дарогаў з уладальнікаў аўтамабіляў? Я думаю, раз ён стаў прэм'ерам, то хутка немагчыма будзе праехаць па цэлай Беларусі. ■



## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Беларуская канстытуцыя са змяненнямі і дапаўненнямі, прынятая на рэферэндуме 1996 года, можа быць зменена ў сувязі з падпісаннем беларуска-расійскага Дагавора аб стварэнні саюзнай дзяржавы.**
Ва ўсякім выпадку старшыня Канстытуцыйнага суда Рыгор Васілевіч не выключае, што «ў сувязі са стварэннем беларуска-расійскай дзяржавы можа і ўзнікнуць пытанне пра неабходнасць карэкціроўкі канстытуцыі». Такую заяву Р.Васілевіч зрабіў на «круглым стале» «Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь у дзеянні», што прайшоў 13 сакавіка.
Праўда, пры гэтым Р.Васілевіч удакладніў: «Я не ведаю пра такія прапановы, я не бачыў такіх дакументаў». Для самога старшыні Канстытуцыйнага суда, які ўзначаліў КС толькі дзякуючы рэферэндуму 96-га года, прыняты ж тады з папраўкамі Асноўны закон «зусім нядрэнны».

■ **Міністэрствы і ведамствы Беларусі ўзялі шэфства над калгасамі і саўгасамі, каб забяспечыць паспяховую сяўбу.**
Савет міністраў Беларусі прыняў спецыяльную праграму развіцця агракомплексу. У адпаведнасці з праграмай, за міністэрствамі і ведамствамі замацаваныя падшэфныя гаспадаркі. Як паведаміла агенцтва «Росбізнесконсалтынг», міністэрства замежных справаў атрымала ў якасці «нагрузкі» калгас «Сцяг перамогі», Нацыянальны Банк Беларусі – калгас «50 гадоў БССР», Беларуская чыгунка – калгас «1 Мая». Міністэрству абароны дасталося ажно тры гаспадаркі.
Пастанова савета міністраў абавязвае «шэфаў» дапамагаць сваім «падшэфным» умацоўваць матэрыяльна-тэхнічную базу, камплектаваць кадры і г.д. Дзеля аказання дапамогі міністэрствы і ведамствы атрымалі дазвол бязвыплатна перадаваць сваю маёмасць «падшэфным». Дакумент таксама прапаноўвае маральна і матэрыяльна заахвочваць тых супрацоўнікаў, якія замест асноўнай працы едуць дапамагаць калгасам і саўгасам.

■ **Сенсацыя: як паведаміў в.а. прэзідэнта Расіі Уладзімір Пуцін, вядомы чачэнскі палявы камандзір Салман Радуеў быў выкрадзены спецслужбамі і дастаўлены ў Маскву. Па словах дырэктара ФСБ Мікалая Патрушава, асабістая ахова С.Радуева «нават і не здагадалася» пра тое, што іх шэфа скралі.**
Учора ж чачэнскаму камандзіру прад'явілі абвінавачванне – у бандытызме, тэрарызме, у арганізацыі выбуху на чыгуначным вакзале Пяцігорска, і г.д. М.Патрушаў сцвярджае, што Радуеў ужо паспеў прызнацца і ў арганізацыі замаху на прэзідэнта Грузіі Э.Шэварднадзе... Зрэшты, у чым толькі ні прызнаешся ў расійскіх турмах! Калі суд прызнае Радуева вінаватым па ўсіх пунктах, яму пагражае 25 гадоў адсідкі, пажыццёвае зняволенне або смяротнае пакаранне.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»** 880

## Марш Свабоды ў Дзень Канстытуцыі

Іван БАБІЧАЎ

Мінскія гарадскія ўлады далі дазвол на правядзенне ў Мінску «Маршу Свабоды-2». Збор удзельнікаў акцыі – 15 сакавіка на плошчы Якуба Коласа ў 18.00. Адтуль калона, перакрываючы рух транспарту, рушыць па праспекце Ф.Скарыны, вуліцах Сурганава і Багдановіча на аўтастанцыю на вуліцы Кульман.

Там, на заасфальтаванай пляцоўцы, вызваленай ад аўтобусаў, і адбудзецца мітынг.

Маршрут, узгоднены з гарадскімі ўладамі, задавальняе арганізатараў акцыі. Яны маюць намер скончыць святочнае шэсце ў Дзень Канстытуцыі мітынгам у падтрымку перамоваў паміж уладай і апазіцыяй, а таксама канцэртам вядомых беларускіх гуртоў. ■

## Вясна... Суды апраўдваюць

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Старшыня Мінскай абласной рады БНФ Валянцін Баранаў, які ў снежні мінулага года быў асуджаны Салігорскім раённым судом да сплаты штрафу ў памеры 29 мільёнаў старых рублёў — за арганізацыю несанкцыяванага шэсця ў вёсцы Красная Горка Салігорскага раёна, нечакана быў апраўданы судом вышэйшай інстанцыі.

Мінскі абласны суд, куды Баранаў не паленаваўся падаць скаргу, палічыў, што прысуд быў вынесены са значным парушэннем праваых нормаў, і адмяніў яго. Цяпер судовы марафон фактычна пачнецца з самай першай інстанцыі. ■

## Эканомія на чыноўніках

Міхась КАРПОВІЧ

На мінулым тыдні А.Лукашэнка падпісаў дэкрэт №9 «Аб скарачэнні расходаў на ўтрыманне дзяржаўных органаў». У адпаведнасці з ім, дзяржаўныя органы усіх узроўняў – ад савета міністраў і адміністрацыі прэзідэнта да мясцовых органаў улады – атрымаюць фінансаванне ў памеры 90% ад запланаванага.

Тыя 10%, якія вызваляюцца ў выніку гэткай эканоміі, а гэта 4 мільярды 135 мільёнаў рублёў, у адпаведнасці з дэкрэтам, накіроўваюцца ў рэзервны прэзідэнцкі фонд – «на дадатковыя неадкладныя патрэбы аховы здароўя».

А.Лукашэнка «параіў» чыноўнікам менш выдаткоўваць на камандзіроўкі, на ўтрыманне службовых легкавікоў, на новае абсталяванне і г.д. ■

## Паслоў – на радзіму

Рыгор БУЯН

У выніку ратацыі, праведзенай па указах А.Лукашэнкі 10 сакавіка, дыпламатычны корпус беларускага знешнепалітычнага ведамства значна парадзеў.

Як і прадказвала НАША СВАБОДА, на радзіму адкліканыя надзвычайныя і паўнамоцныя паслы Беларусі ў Польшчы Віктар Бурскі, у Кітаі і Манголіі — Вячаслаў Кузняцоў, пасол у Злучаным Каралеўстве Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі (і па сумяшчальніцтве ў Ірландыі) Уладзімір Шчасны, а таксама пасол у Аўстрыі Уладзімір Фісенка, які адначасова прадстаўляў Беларусь у міжнародных арганізацыях у Вене.

Афіцыйнай прычынай адклікання паслоў прэс-служба міністэрства замежных спраў называе планавую ратацыю, якая прадугледжаная палажэннем аб дыпламатычнай службе і планам ратацыі замежных установаў Беларусі. У неафіцыйных колах ходзіць іншая інфармацыя: Аляксандр Лукашэнка незадаволены прavaлам палітыкі на заходнім накірунку, што можа пацягнуць за сабой замену ледзь не ўсіх паслоў у краінах Заходняй Еўропы. ■

## Лёс Клімава вырашыцца на вуліцы?

Вольга АНЦЫПОВІЧ

Сойм БНФ «Адраджэньне», які прайшоў у нядзелю, 12 сакавіка, прыняў заяву па судовым працэсе над дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання Андрэем Клімавым.

Нагадаем, што вынясенне прысуду па справе Клімава, запланаванае на 9 сакавіка, было перанесена і адбудзецца 17 сакавіка ў 10.00 у памяшканні Ленінскага раённага суда. Многія палітычныя партыі, у тым ліку і БНФ, расцанілі гэты факт як ціск на аб'яднаную апазіцыю напярэдадні «Маршу Свабоды-2».

*«Больш чым двухгадовае знаходжанне А.Клімава ў следчым ізалятары, судовы працэс над ім, які цягнецца ўжо 7 месяцаў, з'яўляюцца прамым доказам палітычнага характару гэтай «крымінальнай справы». Фактычна А.Клімаў стаў закладнікам рэжыму, і яго лёс будзе вырашацца ў залежнасці ад характару праведзеных вулічных і палітычных акцыяў апазіцыі»*, – паведамляецца ў заяве.

БНФ звярнуўся да ўсіх беларускіх апазіцыйных сілаў і міжнародных арганізацыяў з просьбай зрабіць усе магчымыя захады дзеля хутчэйшага вызвалення дэпутата Андрэя Клімава.

Таварыства беларускай мовы запрашае сваіх прыхільнікаў на вечарыну, прысвечаную 160-ым угодкам з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча, якая адбудзецца ў Менску 21 сакавіка а 17 гадзіне ў кінатэатры «Змена», што на вуліцы Даўгабродскай, 4. Праезд аўтобусам № 19, трамваямі № 7 (з вакзала), 3, 6, 8 да прыпынку «Кінатэатр «Змена».

У праграме вечарыны – выступленні пісьменнікаў, дакументальная стужка «За Кушлянамі снег», прэзентацыя кніг «Беларусь» К. Тарасава і «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі» У. Арлова і Г. Сагановіча, а таксама мастацкая частка.

Уваход вольны.

# Новыя акадэмікі

Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ

**8 сапраўдных членаў і 19 членаў-карэспандэнтаў – такое папаўненне атрымала Нацыянальная акадэмія навук Беларусі (НАНБ) пасля чарговай сесіі агульнага сходу, якая адбылася 10 сакавіка. Сесія зацвердзіла ўсе прадстаўленыя кандыдатуры акадэмікаў, членаў-карэспандэнтаў НАНБ, а таксама замежных і ганаровых членаў акадэміі.**

Паводле вынікаў тайнага галасавання, у якім узялі ўдзел 66 акадэмікаў і 148 членаў-карэспандэнтаў НАНБ, сапраўднымі членамі беларускай Акадэміі сталі ў асноўным прадстаўнікі акадэмічнага дырэктарскага корпуса: дырэктар Інстытута тэхнічнай кібернетыкі Вячаслаў Танаеў, загадчык лабараторыі Інстытута фізікі Віталь Талкачоў, дырэктар Інстытута прыкладной фізікі Пётр Прахарэнка, дырэктар Інстытута праблемаў энергетыкі Аляксандр Міхалевіч, галоўны вучоны сакратар прэзідыума НАНБ Фёдар Лахвіч, дырэктар Інстытута праблемаў выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі Уладзімір Логінаў, дырэктар Цэнтральнага батанічнага сада НАНБ Уладзімір Рашэтнікаў і дырэктар Інстытута эканомікі Пётр Нікіценка.



Прыхільнасці акадэмічнай грамадскасці да навуковых кіраўнікоў выявіліся і ў выбарах членаў-карэспандэнтаў. Сярод 19 наноў абраных — дырэктар акадэмічнага Інстытута фізікі Мікалай Казак, генеральны дырэктар НВА «Інтэграл» Віктар Емяльянаў, дырэктар БелНДІ траўматалогіі і артапедыі міністэрства аховы здароўя Яўген Беланека і дырэктар БелНДІ эпідэміялогіі і мікрабіялогіі Леанід Цітоў.

Замежнымі членамі Нацыянальнай акадэміі навук абраныя вядомыя расійскія вучоныя — акадэмікі РАН Гурый Марчук, Аляксандр Самарскі, Віктар Панін, Уладзімір Шумны, Леанід Абалкін, Уладзімір Кудраўцаў, а таксама акадэмік Расійскай акадэміі медыцынскіх навук Валянцін Пакроўскі. Ганаровымі членамі Нацыянальнай акадэміі навук абраны народны мастак Беларусі Віктар Грамыка і беларускі паэт Васіль Зуёнак.

Асаблівасцю прайшоўшых выбараў можна лічыць тое, што два аддзяленні НАНБ не падтрымалі вучоных, якія займаюць высокія дзяржаўныя пасады. На прайшоўшым напярэдадні паседжанні Аддзялення фізіка-тэхнічных праблемаў машынабудавання і энергетыкі не набралі неабходнай колькасці галасоў для прадстаўлення ў члены-карэспандэнты НАНБ старшыня Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхналогіях Віктар Гайсёнак і яго намеснік Уладзімір Байкоў, а на паседжанні Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў — старшыня Канстытуцыйнага суда Рыгор Васілевіч і міністр эканомікі Уладзімір Шымаў. ■

# Неизвестный визит Урала Латыпова

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

**В минувший четверг находящийся в Берлине вице-премьер и министр иностранных дел Беларуси Урал Латыпов *категорически отверг появившееся в последнее время в западной и российской прессе сообщение о том, что скоро на территории его республики*, в непосредственной близости от границ члена НАТО Польши, *вновь будут размещены российские ядерные ракеты*. Он заявил: «В Конституции Беларуси ясно записано, что наше государство свободно от ядерного оружия. Так оно и будет». Об этом сообщила *Berliner Zeitung*.**

Обращает на себя внимание тот факт, что, кроме немецкого издания, данное заявление У.Латыпова, как и информация о его визите в Берлин, были полностью проигнорированы государственными СМИ Беларуси и пресс-службой его ведомства. Именно по четвергам в МИД РБ проходят традиционные брифинги для журналистов. Но 9 марта, по неизвестным причинам, пресс-секретарь Урала Латыпова ничего по поводу нахождения своего шефа в Берлине не сказал.



Фота REX/ProMedia

В комментариях зарубежных СМИ акцентируется внимание на то, что, несмотря на то, что Урал Латыпов назвал утверждения СМИ о размещении ядерного оружия в Беларуси абсолютно беспочвенными, он *подтвердил совместные намерения Москвы и Минска*, о которых в последнее время активно заявляли российские официальные лица: *согласованно реагировать на планы США по созданию системы ПРО*. Правда, о каких-либо конкретных мерах, направленных на поддержание стратегического паритета в мире, ни одна сторона еще не сообщала. Министр признался также в том, что Беларусь обижена на Запад за то, что он, уделяя большое внимание отношениям с Москвой и Киевом, в то же время совершенно «близоруко» игнорирует Минск, и напомнил, что, в отличие от Украины, *Беларусь, добровольно передав все ядерное оружие России, не получила за это никакой благодарности или компенсации*. ■

## «Дзень Волі» ідзе

Аляксей СТАЎСКІ

Агульным лікам у васемнаццаці гарадах Беларусі былі пададзеныя заяўкі ў мясцовыя органы ўлады на правядзенне ў «Дзень Волі» 25 сакавіка шэсцяў і мітынгаў.

Пра гэта паведаміў на адбыўшымся ў мінулую суботу Сойме БНФ намеснік старшыні гэтай арганізацыі Вячаслаў Сіўчык. Па яго ных словах, яшчэ ў дванцаці населеных пунктах плануецца правесці святочныя пікеты. ■

## Маладыя рыхтуюць з'езд

Алесь ШМЯЛЁЎ

Маладзёны з партыі БНФ, якія збіраюцца зарэгістравацца ў міністэрстве юстыцыі як арганізацыя «Малады Фронт», напярэдне вызначылі дату свайго трэцяга з'езда. Ён мусіць адбыцца першага-другога ліпеня гэтага года. На з'ездзе, як і звычайна, акрамя вырашэння стратэгічных пытанняў, плануецца выбраць новыя кіруючыя органы арганізацыі. Нагадаем, што на мінулым з'ездзе ў лютым 1999 года старшынёю на другі тэрмін запар быў абраны Павал Севярынец, які ўзяў сабе ў намеснікі дзесяць чалавек. ■

# Вось Багдад-Мінск стане рэальнасцю

Алесь ПАЎЛОВІЧ

**Ужо у гэтым годзе ў Іраку будзе адчыненае пасольства Беларусі, паведамляюць дасведчаныя крыніцы з МЗС. Працаваць у амбасадзе будзе не менш за шэсць супрацоўнікаў з Беларусі, што з'яўляецца вышэй за сярэдні паказчык колькасці персаналаў дыпламатычных прадстаўніцтваў нашай краіны за мяжой.( Да прыкладу, у суседняй Латвіі працуе чацвёра беларускіх дыпламатаў). Узнікае пытанне, чым будуць займацца беларусы ў Іраку, калі на сённяшні дзень супрацоўніцтва з гэтай краінай мінімальнае?**

Аказваецца, беларускія ўлады абяцаюць зрабіць адносіны з рэжымам Садама Хусейна ў хуткім часе вельмі інтэнсіўнымі. Паводле дасведчаных крыніцаў, падпісаная дамова аб пастаўках у Ірак 150 аўтамабіляў МАЗ і 10 тысяч бабруйскіх шынаў. Гэта як першы блін альбо крок. Потым, згодна з пратаколам аб павелічэнні сувязяў, будзем купляць у Ірак сыравіну, ім прадаваць нашу сталь, абменьвацца творчымі калектывамі, абучаць іракскіх студэнтаў у нашых ВНУ і ўвогуле сябраваць як мага крапчэй. Карацей, рабіць усё тое, што, згодна з рашэннем ААН, рабіць не варта, пакольні прызнана, што Хусейн дыктатар і агрэсар, і дапамагаць яму значыць падтрымліваць небяспечны рэжым. Аднак гэтыя засцярогі ААН, відаць, турбуюць беларускае кіраўніцтва менш за ўсё. Зноў прадэманстравана, што адзін рэжым з другім заўсёды дамовяцца, а на тое, што сяброўства з Іракам яшчэ больш скампраметуе ўсіх беларусаў у вачах свету, уладам проста напляваць.

Варта адзначыць, існуе таксама небяспека таго, што Беларусь паспрабуе гандляваць з іракцамі зброяй. Пададзрэнні, што гэта ўжо робіцца праз пэўных пасрэднікаў, неадназова гучалі, аднак дагэтуль не былі пацверджаныя. Усё ж гандлёвы абарот з Іракам з-за сваёй мізэрнасці быў даволі празрыстым. Цяпер сітуацыя можа змяніцца. Калі насуперак эмбарга ААН з Беларусі будуць наладжаныя пастаўкі сталі, абсталявання, станкоў і прыстасаванняў, на што прэтэндуюць іракцы, то пад іх прыкрыццём з'явіцца немалыя магчымасці гандляваць і прадукцыяй вайсковага прызначэння. Спакуса такая існуе, і цяжка прадказаць, ці адмовяцца беларускія ўлады ад магчымасці лёгка зарабіць патрэбную ім цяпер валюту на іракскім вайсковым рынку. Бо на забарону ААН весці вайсковае супрацоўніцтва з Іракам нашыя могуць пагглядзець гэтаксама, як і на эмбарга проста гандляваць з іракцамі. З чым яны ўжо не лічацца. ■

# За свабоду!
# За Беларусь!




**Збор у сераду, 15 сакавіка, у 18:00**
**на сталічнай плошчы Якуба Коласа.**
**Патэлефануйце сваім сябрам і знаёмым!**

